# Магілёў, 10-га кастрычніка. Пікет



**Анатоль ФЕДАРАЎ, старшыня абласной арганізацыі БНФ:**

На маю думку, пікет як акцыя сацыяльна-эканамічнага пратэсту супраць неэфектыўнай палітыкі Лукашэнкі, выявіў некалькі адметных момантаў, якія нельга не адзначыць. Па-першае, гэта была сапраўды сумесная акцыя мясцовых дэмакратычных арганізацый. Мы і раней імкнуліся выступаць разам, аднак не заўсёды гэта ўдавалася. Часцей за ўсё ініцыявалі і праводзілі мерапрыемствы фронтаўцы. Прадстаўнікі ж іншых партый і рухаў не заўсёды нас падтрымвалі — па розных тактычных, а тое і праграмных разыходжаннях. Ідэя пікету была ўсімі падтрыманая, распрацаваная і ажыццёўленая.

Па-другое, змянілася стаўленне людзей да падобных акцыяў. На многіх ранейшых пікетах трэба было сцерагчыся не толькі міліцыянтаў, гатовых кожную хвіліну выхапіць каго-небудзь з актывістаў за "абразлівы" плакат або бел-чырвона-белы сцяг ці павязку. Як правіла, актыўна паводзілі сябе і лукашэнкаўцы, якія ўслед за сваім кумірам гатовыя былі пусціць у ход не толькі словы, а ледзь не кулакі. Заўсёды міма пікетаў падкрэслена абыякава праходзіла немала людзей, якія дэманстратыўна ігнаравалі нейкіх "дзівакоў", якім няма чаго больш рабіць, як тырчаць з плакатамі на вуліцы.

Гэтым разам усё было інакш. Міліцыянты, зразумела, рабілі сваю "справу": фатаграфавалі і здымалі на відэакамеру пікетчыкаў, нецярпліва паглядалі на гадзіннікі, не дазволіўшы пікету прастаяць на хвіліну больш адведзенага часу. Але іншай "актыўнасці" не праяўлялі. Значна паменшылася і дабраахвотных абаронцаў прызыдэнта, якому "гэтыя дэмакраты не даюць працаваць": людзі ахвотна спыняліся ля пікету, уступалі ў размовы, выказвалі аднолькавыя з пікетчыкамі настроі незадавальнення жыццём.

Дзве высновы можна і трэба зрабіць з нагоды апошняга дэмакратычнага выступу. Дзейнічаць трэба разам. Непрынцыповыя партыйныя разыходжанні павінны саступаць месца агульнаму супраціву антынароднаму рэжыму. І — вельмі важна знаходзіць падставы для выступленняў, якія зразумелыя самаму шырокаму колу людзей. А ўжо на гэтым можна развіваць, як гаворыцца, іх палітычную адукацыю.



**Сергей ОБОДОВСКИЙ, председатель региональной организации Свободных профсоюзов:**

У меня с собой была большая пачка нашего республиканского бюллетеня "Рабочий". К концу пикета газет практически не осталось. По опыту всех прежних пикетов и митингов знаю, как неохотно в Могилеве люди присоединяются к таким акциям, стараются избегать контактов с митингующими или пикетирующими. В этот раз все было иначе.

Думаю, что мы нашли правильную форму выражения протеста, плакаты были конкретны, на одном из них даже стояла фамилия одного из руководителей предприятия, где недавно "отличились" в политическом выслуживании перед властью. В пикете стояли действительно рабочие люди, многих из которых в городе знают и уважают. Даже самые агрессивные сторонники Лукашенко (между прочим, они всегда отличаются не аргументами в споре, а агрессивностью) не могли бросить пикету своих обычных упреков в "подкупе несмышленых мальчишек", которые за плату согласились постоять с плакатами.

Экономическое положение страны, идущей в никуда на фоне всей динамично развивающейся Европы, становится все очевиднее для большинства людей. Да, в головах еще много путаницы, непонимания причин происходящего, незнания правды, наивной веры в президента — народного батьку.

Но сама жизнь убеждает быстро. Все больше людей понимают, что совершили непростительную ошибку, доверив свою жизнь и страну человеку, не имеющему никаких качеств для высокой государственной должности. В нем вся причина.

Пикет наш убеждал в этом могилевчан не "политически" только, как это было у нас традиционно, а "экономически". Это находило поддержку. Разумные люди сами сделают нужные выводы. Мы же видим свою задачу в том, чтобы говорить людям правду, не боясь власти, несмотря на всю ее полицейскую силу, и отстаивать права рабочих людей. Все больше рабочих нас понимают. Свободные профсоюзы живут и действуют, хотя власть против нас бросает немалые пропагандистские и административные силы. Но правду, как известно, нельзя уничтожить. Пикет в рамках осенних акций протеста против нынешнего социально-экономического состояния страны и народа это подтвердил.




## ПАЛІТЫЧНАЯ ВОСЕНЬ-97 НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ. ЦІ БУДЗЕ ПРАЦЯГ?

Пытанне гэтае — аб магчымасці працягу восеньскіх выступленняў працоўных супраць пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча, што шчыльна звязанае з палітыкай рэжыму — зусім, на жаль, правамернае. Не таму, зразумела, што адмоўны грамадскі настрой, які пануе цяпер у нас, раптам зменіцца ў лепшы бок або пойдзе на спад. Наадварот, незадавальненне людзей жыццём штодня расце і пашыраецца. Але ж і рэжым нарошчвае сілы і прымяняе мэтады запалохвання і прамога гвалту супраць людзей, чыніць перашкоды ажыццяўленню грамадзянамі іх канстытуцыйных правоў.

Мінулымі выхаднымі на Магілёўшчыне адбыліся дэмакратычныя пікеты ў Глуску, Касцюковічах, Бабруйску, Мсціславе і Шклове. Паўсюль з вялікімі цяжкасцямі арганізатары дамагліся ад мясцовых уладаў дазволу на свае мірныя выступы, на сваё права, калі гаварыць шырэй, мець магчымасць адкрыта заяўляць сваю думку, сваю пазыцыю. Адзначым, што ва ўсім свеце для таго, каб выставіць пікет, не патрабуецца спецыяльнага дазволу, не патрэбны ніякія іншыя адміністрацыйна-бюракратычныя захады. Гэта натуральнае права чалавека — выйсці да тых, ад каго залежыць вырашэнне праблемы, сітуацыі ці пытання — і прыцягнуць увагу з дапамогай, як правіла, маўклівай акцыі пікетавання, звычайна аздобленай толькі плакатамі, транспарантамі ці адметным адзеннем.

Але гэтае права не прызнаецца лукашэнкаўскім рэжымам. З плакатамі ў ягоную падтрымку вы можаце збірацца ў любы час сутак на парозе Дома саветаў, на плошчы Леніна або ў дварах дамоў, дзе пражываюць начальнікі. Ніхто не рызыкне вам перашкодзіць, а тым больш затрымаць. Рэдакцыя ТМ можа заключыць на гэты конт любое пары.

У райцэнтрах, дзе адбыліся пікеты (зазначым — зусім нешматлюдныя), да месцаў іх правядзення былі сцягнутыя ўсе мясцовыя міліцэйскія сілы. Яны былі напагатове, як сведчаць удзельнікі пікетаў, за ўсімі кустамі, дрэвамі, за вугламі бліжэйшых дамоў. Напагатове каб накінуцца на пікетчыкаў. Любая правакацыя, любая нагода маглі стаць падставай для разгону і затрымання людзей. На шчасце, гэтага не адбылося: пікетчыкі паўсюдна паводзілі сябе выключна стрымана. Але пагадзіцеся, што далёка не кожны чалавек здольны праявіць свой настрой і сваю пазыцыю, знаходзячыся ў шчыльным атачэнні ўзброеных і на ўсё гатовых дзеля "абароны" роднага прэзыдэнта міліцыянтаў, амонаўцаў і "цывільных" агентаў. На гэта ў іх і разлік.

Аднак што тычыцца, ў прыватнасці, пікету, які адбыўся ў мінулую пятніцу ў Магілёве ля гатэля "Днепр", яго арганізатараў і удзельнікаў запалохаць не ўдалося. Яны замовілі чарговыя масавыя выступы маральнага супраціву рэжыму на 24-е, 25-е і 26-е кастрычніка. Іх не ўдасца і выштурхнуць на ўскраіну горада, як заўсёды імкнуцца, дарэчы, зрабіць абласныя ды раённыя ўлады. Найлепшае, чаго б хацелі яны дамагчыся — каб людзі праяўлялі сваё незадавальненне ў зачыненых кватэрах і пры выключаным святле. Аднак дэмакратычная апазыцыя вобласці, Свабодныя прафсаюзы настроены не хавацца, а настойліва заяўляць аб сабе і дзейнічаць. Бо адчуваюць рэальную трывогу за сацыяльна-эканамічны стан градства, якое ўлада "корміць і сагравае" не нармальнай зарплатай, людскімі цэнамі на тавары і паслугі, не цяплом у дамах, а ідэалогіяй нейкага асобнага курсу, якім прэзыдэнт вядзе краіну ўсё далей ад агульнапрызнанай цывілізаванай дарогі. Далёка не ўсе згодныя з такім накірункам. Заяўляць аб гэтым, патрабаваць зменаў і ёсць асноўная мэта пікетаў і ўсёй палітычнай Восені-97.

**Уласн. інф.**

## ДАКУМЭНТ

212030, Магілёў, Дом Саветаў

Старшыні Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэту

Абрамовіча Віктара Альбертавіча
Адрас: 212030, Магілёў,
вул. Інтэрнацыянальная, 6а

### СКАРГА

Пачынаючы з 27 траўня г.г. і да 29 жніўня г.г. мною падаваліся заявы ў гарвыканкам г. Магілёва на правядзенне вулічных шэсцяў і мітынгаў. Мэтай шэсцяў і мітынгаў было прыцягнуць увагу грамадскасці горада г. Магілева да парушэнняў, якія ў масавым парадку ўчыняюць дзяржаўныя служачыя, якія працуюць у гарвыканкаме, і праз абмеркаванне гэтых парушэнняў вусна і ў сродках масавай інфармацыі ініцыяваць уздзеянне грамадскай думкі на гарадзкія ўлады, каб выправіць дрэннае становішча з радам праблем, якія не рашаюцца, або наўмысна замоўчваюцца як уладамі, так і падпарадкаванымі ім сродкамі масавай інфармацыі. Гэта такія негатыўныя праблемы, як парушэнне работнікамі гарвыканкама Закона РБ "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце", рост злачыннасці ў г. Магілёве, парушэнні работнікамі гарвыканкама дэкрэта N 5 прэзыдэнта Лукашэнкі і арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, парушэнне гарвыканкамам Закона РБ "Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь" і Закона РБ "Аб зваротах грамадзян".

Са 103 паданых заяў на шэсці гарвыканкамам было разгледжана толькі 70. Своечасова паведамлена аб прынятым рашэнні толькі 11 разоў. Не дадзена ніводнага дазволу на правядзенне шэсця. Такім чынам, выканаўчым камітэтам г. Магілёва парушаны:

— арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 103 разы;

— п. 4 дэкрэта N 5 прэзыдэнта РБ у частцы разгляду заяў аб правядзенні шэсцяў — 33 разы;

— п. 4 дэкрэта N 5 у частцы своечасовага паведамлення аб прынятым рашэнні — 59 разоў

— п. 5 дэкрэта N 5 у частцы выпадкаў забароны правядзення шэсцяў — 70 разоў (адмоўлена ў правядзенні шэсцяў па прычынах не прадугледжаных у п. 5).

Разам з заявамі на шэсці падаваліся заявы на правядзенне мітынгаў, пачынаючы з 28.05.97 па 09.07.97. Адмовы на іх паступалі разам з рашэннямі па шэсцях, ці наогул не паступалі. Усяго пададзена 43 заявы на мітынгі. Разгледжана 28 заяў. На правядзенне мітынгаў не дадзена ніводнага дазволу.

Парушаны арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 43 разы.

Разгледжана і паведамлена аб рашэнні ў адпаведнасці з дэкрэтам N 5 адна заява.

Працэнт выканання гарвыканкамам дэкрэта N 5 прэзыдэнта РБ:

**(28+1)/(103+43)x100=19,86%**

Несвоечасовы разгляд заяў грамадзян і ігнараванне разгляду заяў — гэта візытоўка гарвыканкама г. Магілёва. Акрамя таго, што гэта выклікае нараканні грамадзян, гэта яшчэ і прамое парушэнне арт. 8 Закона РБ "Аб зваротах грамадзян". Са 146 пададзеных мною заяў ва ўстаноўлены тэрмін былі дадзены адказы толькі на 29. Гэта менш чым 20% ад патрабаванняў законаў і дэкрэта N 5 прэзыдэнта Лукашэнкі.

У сувязі з вышэй азначаным прашу:

1. Працягнуць да адказнасці асоб, якія парушылі Закон РБ "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце" (арт. 10).
2. Прыняць захады дзеля выпраўлення існуючага становішча з тэрмінамі разгляду заяў у аддзеле па зваротах грамадзян гарвыканкама.
3. Аб прынятых мерах паведаміць у сродках масавай інфармацыі.

06.10.97 В.Абрамовіч.

## З КАСТРЫЧНІЦКАГА СОЙМУ БНФ

# Калі на карце лёс краіны — не да лагоднасці

У мінулую суботу ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту. Удзельнікі ягонай работы паведамілі ТЫДНЁВІКУ аб тым, што Сойм праходзіў у вострай дыскусійнай форме, выкліканай абмеркаваннем бягучага палітычнага становішча і дачыненняў Фронту з іншымі апазыцыйнымі рэжыму палітычнымі партыямі ў гэты найбольш адказны для Бацькаўшчыны час.

Частка фронтаўцаў лічыць, напрыклад, што некаторыя з прынцыповых мэтаў вызвольнага нацыянальнага руху можна на нейкі час, да перамогі над Лукашэнкам, не выстаўляць на першы план, а дзейнічаць разам з усімі антыдыктатарскімі сіламі пад больш мяккімі лозунгамі. Іншыя, і разам з імі Зянон Пазьняк, з такой тактыкай не пагаджаюцца, бо яна можа прывесці да паступовай і непрыкметнай страты вядучай ролі БНФ у змаганні за Беларусь.

Сойм тым не менш не стаў навукова-тэарэтычнай канферэнцыяй, а здолеў прыняць шэраг дакумэнтаў, неабходных для бліжэйшай рэальнай работы. ТМ мае магчымасць пазнаёміць чытачоў з асноўнай пастановай кастрычніцкага Сойму.

### УХВАЛА

**Аб удзеле БНФ у Нацыянальнай Выканаўчай Радзе**

1. Выконваючы рашэньні V-га зьезду БНФ аб супрацоўніцтве з легітымным Вярхоўным Саветам у барацьбе за вяртаньне канстытуцыйнага парадку ў краіне і рэальнае аднаўленьне дзеяньня Канстытуцыі 1994 г. лічыць неабходным падтрымаць ініцыятыву прэзыдыюма ВС аб утварэньні Нацыянальнай Выканаўчай Рады.
2. Лічыць удзел прадстаўнікоў БНФ у Нацыянальнай Радзе мэтазгодным пры ўмове ўнясеньня ў тэкст Палажэньня аб ёй праграмных пунктаў пра адстойваньне незалежнасьці Беларусі і гарантыяў нацыянальна-культурнай пэрспэктывы беларускага народу.
3. З увагі на патрэбу максымальнага ўліку інтарэсаў і поглядаў БНФ як буйной палітычнай сілы лічыць мэтазгодным, каб пасаду старшыні Нацыянальнай Рады заняў прадстаўнік БНФ, або кандыдатура старшыні была б зацьверджана па прапанове БНФ.
4. Даручыць прадстаўнікам БНФ на перамовах з прэзыдыюмам ВС давесьці вышэйвыкладзеную пазыцыю Народнага Фронту.

**11 кастрычніка 1997 г.**
**г. Менск.**

**Даведка ТМ.** Нацыянальная Выканаўчая Рада ствараецца па рашэнню Сходу дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканння. Мэтай гэтай палітычнай структуры зьяўляецца выпрацоўка мер па недапушчэнню разбуральнай эканамічнай палітыцы, якую праводзіць цяперашняя выканаўчая ўлада краіны, а таксама распрацоўка і ажыццяўленне неабходнага комплексу мер для вяртання краіны ў прававое поле. Мяркуецца, што НВР збярэ ў свае шэрагі найбольш прафесыйных і аўтарытэтных асобаў, здольных у бліжэйшы час прапанаваць грамадству дакладную і рэальную праграму пераўтварэнняў у Беларусі, накіраваных на прыкметнае паляпшэння жыцця людзей.

На нядаўнім дэмакратычным мітынгу ў Менску старшыня ВС Сямён Шарэцкі паведаміў таксама, што бліжэйшай задачай НВР стане падрыхтоўка і ажыццяўленне легітымнай працэдуры па адхіленню ад улады прэзыдэнта Лукашэнкі.

